 

— Дзе затрымацца? — спытаў шафёр, калі яны ўехалі ў вёску.

Ганна прачнулася. Яна і сама не ведала, дзе затрымацца. Яна забыла нават спытаць прозвішча жанчыны, з якой паехаў яе муж.

Аўтамабіль затрымаўся. Яна паклікала да аўтамабіля хлапчука.

— Дзе тут жыве жанчына, што ў Беластоку на будове

# НАВАТЫ?

працуе?

Хлапчук пачаў блытана пасняць.

— Сядай з намі, пакажаш!

Хлапчука не трэба было два разы прасіць. Такія выпадкі рэдка здараюцца. Ён у момант апынуўся на мяккім сядзенні.

Неўзабаве аўтамабіль стаяў перад хатай Веры. Ганна бягом уварвалася ў хату. Адчыніўшы дзверы, яна на хвіліну аслупянела: на ложку ляжаў яе муж з Верай.

Яны не паспелі ўстаць, як яна апынулася ля ложка. Схапіўшы мужа за кудлы, яна пачала акладваць яго аплявухамі.

Рвануўшыся з усёй сілы, ён вырваўся з яе рук і, схапіўшы пінжак, бомбай выляцеў на двор.

Ён падаўся на вуліцу і тут заўважыў аўтамабіль. Павярнуўшы назад, ён з лёгкасцю хлапчука пераскочыў плот і панёсся, як заяц, праз поле ў лес.

Ён бег на ўвесь дух, хоць ніхто за ім не гнаўся.

Раптам ён зволніў бег. Яму стаў у выабражэнні вобраз, які толькі мігнуў перад вачыма, калі ён агляну́ўся на пароз̌е, уцякаючы ад жонкі. У руцэ яе быў кухонны нож.

— А што калі... — ён баяўся нават дадумаць да канца.

— Мо' лепш вярнуцца? Але чым жа я дапамагу? Біцца з жонкай не будзеш. Хай сама бароніцца, — суцяшаў ён сябе.

І ён зноў прыспешыў ход, уцякаў, як памаўзлівы кот, якому пагражае кара. Ён уцякаў ад свайго запэцканага сумлення. Яму не прышло ў голаву, што ад сумлення не ўцячэш.

## 4. ЭПІЛОГ

Яна была страшнай, калі выбегла з дому. Валасы раскудлачаны, аблітая крывёй.

Адбегшы ад ганку, заўважыла каля плоту кучу камення. Затрымалася, агледзілася навокал непрытомнымі вачыма. А пасля, хапаючы каменне, яна, як ашалелая, кідала іх у вокны. З гукам трэскалі шыбы і жаласна пазваньвалі кавалкі шкла, падаючы на зямлю.

Апрытомнеўшы, яна села ў аўтамабіль і загадала ехаць у Васількова.

Шафёр дрыжачай рукой пацягнуў за стартар.

— Ці можна заявіць аб выпадку? — спытаў шафёр, калі яна высела каля сваёй хаты.

— Як сабе хочаш, — адказала.

Веру не паспелі завезці ў бальніцу. Яна памерла ў дарозе ад страты крыві.

Ганна прыцягнута да судовай адказнасці за забойства. Міхась далей працуе на будове. Ён карыстаецца славай сумленнага працаўніка.

САВА

# НОВАЯ ШКОЛА — ВЯЛІКАЯ РАДАСЦЬ У АЛЬХОЎЦЫ

Зімовы марозны дзень. Усё навокал тоне ў праменнях сонца; снег іскрыцца, аж вочы баляць. Незвычайна выглядала вуліца ў Альхоўцы ў гэты дзень. На ёй панаваў вялікі рух. Вучні паасобку і гуртам хадзілі з канца ў канец. Усе яны чымсьці ўсхваляваныя, вясёлыя. «Што такое, якое гэта свята?» — пыталіся незарыентаваныя ў справе. Але такога ўсхвалявання вясёласці, як у гэты дзень, яшчэ ніхто не бачыў на вуснах і ў паводзінах альхоўскіх школьнікаў. Чаму? Бо гэтага дня яны чакалі як найбольшага свята, ён застанецца памятным надоўга сярод вучняў, настаўнікаў і ўсіх жыхароў Альхоўкі — дзень 25 студзеня, калі адчыніліся дзверы новапабудаванай школы Радасць вялікая. Да гэтай пары навучанне праводзілася ў 3-х прыватных памяшканнях, цесных, невыгодных, цёмных.

Калі пачуліся словы загадчыка школы Т. Хлябіча: «Сёння пераходзім у новую школу», — школьнікі як па загаду падняліся на лаўках і па залах панеслася рэха моцных апладысментаў.

З радасці не чакалі вучні сваіх бацькоў з фурманкамі, якія павінны былі перавезці лаўкі і шафы, але самі вырашылі ператранспартаваць у новую школу. З усхваляваннем, поўным энергіі да працы, кожны ўсхапіўся за сваю лаўку і вынёс яе на вуліцу. Вучні сталі ў шарэгі і пхалі лаўкі ў напрамку новай школы. Уся вуліца пакрылася працавітымі «мураў'ямі». Пачатак рассыпанай дзетвары быў ужо ля новага будынку, а канец — у адлегласці 800 м. Цудоўна выглядала вуліца, пакрытая вучнямі і лаўкамі. Усе захапляліся такім відовішчам. Нехапала толькі фотарэпарцёра. Калі лаўкі былі на месцы, вучні вярнуліся па навуковыя дапаможнікі. Кожны з вучняў, ад наймалодшага да найстарэйшага, штосьці нёс — геаграфічную карту, глобус, компас ці што іншае. Затым дзеці вярнуліся і ўзялі з сабою кніжкі са школьнай і грамадскай бібліятэк.

Вучні VI-га і VII-га класаў прыцягнулі санкі, паклалі на іх шафы, дошкі і з чырвоным сцягам наперадзе «паехалі» праз вёску. Пад наглядам настаўнікаў старэйшыя вучні прыступілі да ўпарадкавання класных залаў. Калі ўсё ўжо было прыведзена ў парадак, школьнікі доўгі час аглядалі новенькія, памаляваныя свежай фарбаю залы. Кожны выбіраў сабе месца на лаўцы, усім цешыўся, захапляўся і доўгі час нікому не хацелася выходзіць з новай прыгожай школы.

Я бачыў усё гэта, сам перажываў гэты дзень і не мог ўстрымацца, каб не напісаць да нашай «Нівы».

МІХАСЬ ПАНФІЛЮК

На вясковай сцэне

# «СЫН ПАЛКА»

21 лютага г. г. жыхары вёскі Тынявічы Вялікія двойчы маглі паглядзець пастаноўку «Сын палка» ў выкананні вясковага гуртка мастацкай самадзейнасці пад кіраўніцтвам Марыі Бачынскай: у 14 гадзін — для дзяцей і ўвечары — для дарослых.

Многа папрацавалі над гэтай пастаноўкай удзельнікі самадзейнасці, цяжка прыйшлося з касцюмамі (трэба ж было аж 11 вайсковых касцюмаў), але ўсе цяжкасці засталіся ззаду — артысты на сцэне. Спачатку выступіў запрошаны на канцэрт прадстаўнік ЛПЖ з Гайнаўкі потым з вершам «Прывітальнае слова» Андрэя Самасея выступілі Уладзімір Астапкевіч і Мікалай Свентахоўскі.

А калі паднялася заслона і на сцэне з'явіліся героі «Сына палка», у зале стала вельмі ціха. Вельмі ўзрушыла гледачоў іграартыстаў, асабліва ў IV і VI карцінах. Ролю Вані Солнцава выконваў Мікола Леўчук, капітана Енакіева — Мікола Свентахоўскі.

На канцэрце прысутнічалі і жыхары суседніх вёсак, і ўсім вельмі спадабалася.

Тынявіцкія драмгурткоўцы ў гэтым годзе ўжо другі раз выступаюць у сваёй вёсцы. І гэта дзякуючы іх вялікаму жаданню і добраму кіраўніцтву з боку Марыі Бачынскай. Пажадаем ім яшчэ большых поспехаў у гэтай благароднай працы.

**Мікола Свентахоўскі**
Тынявічы Вялікія

# ПАРЦАЎСКАЯ МОЛАДЗЬ У КАШЭЛЯХ

Насельніцтва вёскі Кашэлі прыемна правяло вечар 21 лютага 1960 года. У гэты дзень Кашэлі наведаў самадзейны мастацкі калектыў з вёскі Парцава, Бельскі павет. Праграма мастацкага калектыву была падрыхтавана на беларускай мове. У праграме былі беларускія, рускія і польскія песні і п'еса «Паўлінка». Гледачы захапляліся ігрой настаўніцы з Парцава, якая іграла ролю Паўлінкі. Пасля пастаноўкі адбылася агульная забава. У час гутарак парцаўская моладзь расказвала мясцовай моладзі аб сваім калектыве, паказвала, як культурна можна праводзіць час на вёсцы і знайсці цікавы і карысны занятак. Парцаўскі калектыў, як сказала сама моладзь, выступаў усяго чацверты раз з гэтай праграмай. Тым больш варта пахваліць маладых артыстаў.

Ад імя жыхароў Кашэляў шчыра дзякую мастацкаму калектыву з вёскі Парцава.

**Аляксандр Бобік**
Кашэлі

дзе б ён не меў дачыненне з грашыма і каштоўнасцямі, інакш ён загіне. Сам у турму пойдзе і іншых пацягне. Гэта авантурыст.

— Ці можа ён наогул прынесці якую-небудзь карысць? — спытаў я.

— А праз каго ж сувязь утрымліваць? — здзівіўся доктар.

— Не разумею, аб якой сувязі вы гаворыце?

— Аб якой? Ён жа радыст... Ці ж гэта вам не вядома?

Толькі тут я зразумеў, што чуць не праваліўся. Я не ведаў, што Брызгалаў радыст. Выратавальны адказ узнік у мяне машынальна.

— Добра, ён радыст, але ён жа прыбыў без радыёстанцыі?

— Гэта не важна.

Ітак, Брызгалаў не ўсё нам расказаў. Ён скрыў, што закончыў спецыяльную радыёшколу. Яго паслалі пакуль без радыёстанцыі наўмысна. Гэта звычайная ходка для наладжання сувязі з Саўрасавым. Ён павінен быў дамовіцца з ім аб сваім уладжанні на работу, аб магчымасцях укрыцця апаратуры, якая будзе ім дастаўлена другім разам. Ніхто не мог прадбачыць, што нямецкая бомба пераб'е Брызгалаву ногі. Але гэтыя абставіны доктара не бянтэжылі. Ён лічыў, што Брызгалаву з пераломанымі нагамі лягчэй будзе скрывацца ад мабілізацыі. Па выхадзе з бальніцы яго адразу трэба ўладзіць на работу.

— А дзе ж ён возьме радыёстанцыю? — пацікавіўся я.

— Не здагадваецеся?

— Не.



— Вы павязеце.

— Вось аб гэтым не падумаў.

Учора я вырашыў, што доктар любіць выпіць, а сёння прыйшоў да іншага вываду: ці не хацеў ён спаіць мяне ў надзеі, што я скажу што-небудзь лішняе? Губарт зрабіў мне праверку адным спосабам; доктар, магчыма, намагаўся ажыццявіць яе іншым.

Ноччу доктар, як бы разгадаўшы мае думкі, раптам спытаў:

— Вы вырашылі, відавочна, пасля ўчарашняга вечара, што я горкі п'яніца?

Я запэўніў, што падобная думка мне ў галаву не прыходзіла.

— Без устрэсвання не магу. Зрэдку яно нават карысна. Але я п'ю і розуму не губляю. Наша справа сабача, і не піць зусім немагчыма.

У гэту ноч я даведаўся, што доктар да вайны выконваў на нашым баку функцыі рэзідэнта. Ён, таксама як Губарт і Габіш, яшчэ ў трыццаць пятым годзе пачаў працаваць на службе бяспекі, вядомай пад скарочанай назвай СД.

Габіш праз Губарта, Робуша і доктара намагаўся стварыць на тэрыторыі Савецкага Саюза актыўную падрыўную арганізацыю.

Калі пачалася вайна, СД усе намаганні накіравала на актывізацыю сваёй работы.

Доктар быў адкліканы Габішам і Губартам з СССР са спазненнем. Ён не змог вярнуцца назад. Краіну перасёк фронт.

— Каб быў я за лініяй фронта, — сказаў доктар, — карціна была б зусім іншай.



— А што вас прымушае знаходзіцца тут? — спытаў я.

— Вы хочаце ведаць што? — спытаў ён і ўважліва ўгледзеўся на мяне.

— Калі мне можна гэта ведаць.

— Добра. Глядзіце, любуйцеся! — І доктар рэзкім рухам сарваў з рук чорныя пальчаткі.

Я ўстрасянуўся. Кісці рук былі цалкам пакрыты струпамі зямлістага колеру.

— Прыгожа?.. А вось гэта? — Ён расшпіліў каўнер сарочкі і агаліў грудзі — там было тое самае. — Цяпер вам ясна?

Я маўчаў.

— Нервовая экзема. Вы не бойцеся, яна не перадаецца, але я не ведаю спакою. Лекары кажуць, што можна вылечыцца. Вось Габіш і накіраваў мяне сюды, на мінеральныя воды.

Гутарка зацягнулася. Выслухаўшы падрабязна «інфармацыю» аб абстаноўцы «на тым баку», доктар яшчэ раз палічыў неабходным пагутарыць аб парадку і характары сувязі.

Праз радыёстанцыю, з якою мяне скінуць у СССР, я павінен буду паведаміць аб магчымасці сустрэчы яго, доктара. На маю адказнасць ляжа падбор месца для прызямлення.

На ўсялякі выпадак, гэта значыць, калі яго скачок чым-небудзь ускладніцца і мы размінемся, я даў доктару два «надзейных» адрасы. Пасля трохдзённага прабывання ў доктара ён правёў мяне на вакзал і пасадзіў у цягнік.

(Працяг будзе)





 

 

# ШЛЮБ НА ВОСТРАВЕ БАЛІ

Востраў Балі знаходзіцца ў Індыйскім акіяне каля вострава Ява.

На востраве Балі жыве 3 мільёны жыхароў. Сам востраў прыпамінае рай на зям-



Нарачоную нясуць такім чынам аж да варот святыні, што знаходзіцца ў цэнтры вёскі.



Хлопцы — ужо мужы, у залацістых вянках на галаве просяць багоў не пакідаць апекі над іх сем'ямі.

лі. Балійцы пакланяюцца некальткі сотням багоў. Тут кожнае здарэнне, кожная аказія добрая для таго, каб адзначыць рэлігійнае свята. Нарадзіны, смерць, шлюб суправаджаюцца складаннем ахвяр багам, спевамі і танцамі.

Шлюб вяжацца таксама са старадаўнім звычаем апілоўвання зубоў маладажонам. Некалі быў гэта сімвал веры і доказ, што жыхары вострава не з'яўляюцца «з'ядаючымі мяса». Цяпер для балійцаў, якіх рэлігія даволі моцна звязана з індуізмам, гэта з'яўляецца толькі актам ачышчэння, які перад богам робіць з маладых людзей мужа і жонку.

Разложаным на ступенях алтара нарачоным апілоўваюцца зубы. Акт вельмі непрыемны і балючы, які працягваецца каля 10 мінут. Зубы апілоўвае свяшчэннік.



# ЗМЕІ — НЯНЬКІ

У Бразіліі змеі не толькі наганяюць страх на чалавека. У некаторых бразілійскіх дамах, галоўным чынам, унутры краіны, змяя сустракаецца вельмі часта, і ніхто яе не баіцца і не забівае; хутчэй наадварот.

Гэта не мае нічога агульнага ні з паданнямі, ні з культам жывёлы. Гэта толькі рэшткі старых звычаяў і вопыту індзейцаў. Некаторыя змеі-удавы — служылі індзейцам абаронцамі ад ворагаў або ад ядавітых змей.

У дамах каланістаў унутры краіны таксама, як у катэджах Петраполіса і нават у аколіцах Рыо, вы можаце ўбачыць прыручаных каралеўскіх удаваў. Еўрапейцу, у якога пры адным слове «удаў» мароз прабягае па скуры, цяжка зразумець, як чалавек можа жыць у пастаянным суседстве з такімі незвычайнымі хатнімі жывёлінамі. І ўсё ж удаў збярог у Бразіліі жыццё тысячы людзей, галоўным чынам, дзецям. Ён ахоўвае чалавека ад ядавітых



змей. У садзе, дзе ёсць удаў, не бывае ніводнай ядавітай змяі, нават калі вакол яны кішаць.

Удаў больш ахайны, чым любая хатняя жывёла. Калі мы ўяўляем сабе змяю, мы думаем аб брыдкай слізкай скуры. Скура ўдава хоць і халодная, але сухая і чыстая. Пры гэтым ні адзін з хатніх вартаўнікоў не бывае такі сціплы, як удаў. Ён харчуецца адзін раз у два, а часам і ў чатыры месяцы. За ўвесь год ён праглынае не больш пяці трусоў. Ён вельмі прывыкае да дзяцей. Як толькі дзіця выходзіць з дому, удаў суправаджае яго на кожным кроку і аберагае ад ядавітых змей.

# НОВЫ НОС

Што такое хірургія, мабыць, кожнаму вядома. Гэта галіна медыцыны, якая займаецца рознага роду аперацыямі.

Зараз мы пагаворым аб пэўнай галіне хірургіі, т. зв. пластычнай хірургіі.

Пластычная хірургія — гэта параўнальна маладая галіна медыцыны, але на заходзе Еўропы (Германія, Францыя) яна значна лепш развілася, чым у нас, а шкада! Бо ўявіце сабе, што **пластычная хірургія займаецца ліквідаваннем розных дэфармацый (крывы нос, разрэзаная губа, плямы, вялікія вушы, адбіты на вайне нос, зросшыя пальцы, адмарожванні і г. д.) нашага цела.** А як жа часта спатыкаюцца такія недахопы ў людзей, і як моцна яны дзейнічаюць на псіхіку чалавека.

Коратка гаворачы, пластычная аперацыя робіць з брыдкага чалавека — прыгожага.

У Польшчы ёсць толькі адзін шпіталь (і то невялікі) пластычнай хірургіі ў Паляніцы Здрою на Шлёнску, але напэўна ў будучым будзе іх больш. У Паляніцкім шпіталю вылечана ўжо з калецтва і абезабражэння звыш 4 тысяч асоб.

Вось некалькі фатаграфій людзей перад і пасля пластычнай аперацыі.





Дзіця з разрэзанымі губамі перад і пасля аперацыі.









З новым носам і жыццё мілей дае.

Для гаспадынь

## КОРАТКА

Каб яйка з надтрэснутай шкарлупай не выцякла, яго вараць у салёнай вадзе.

✲

Варыць у алюмініевай пасудзіне больш карысна, бо ў стравах захоўваецца вітамін С (чыт. Ц).

✲

Чэрствыя булкі будуць свежымі, калі скрапіць іх вадой і ўставіць на 15 мінут у гарачую печку.

✲

Вада, у якой мыеце мяса, з'яўляецца добрым сродкам угнаення глебы для газонаў.

## ЖАНЧЫНА І МІЖПЛАНЕТНАЕ ПАДАРОЖЖА

Амерыканскі псіхіятр Станлей Сміс даказаў, што жанчыны лепш здольныя да міжпланетных палётаў. Жанчыны зносяць лепш поўную ізаляцыю і абсалютную цішыню, якая пануе ў міжпланетным караблі. Вывады гэтыя ён зрабіў з сваіх вопытаў, у часе якіх жанчына ў абставінах, зблiжаных да тых, якія будуць у міжпланетным караблі, вытрымала лёгка чацвёра сутак тады, калі мужчына не мог вытрымаць больш чым два дні.




Грыша гаварыў мне, што шчыра кахае, што будзе са мной жаніцца зараз, як толькі сястра выйдзе замуж. Я верыла Грышы, верыла яго клятвам, яго словам. Але ён урэшце аказаўся несумленным. Як я стала цяжарнай ад яго, дык Грыша пакінуў вёску і выехаў. Не прыязджаў нават на сястры вяселле. Я нарадзіла сына. Вядома, сораму і ўсялякіх непрыемнасцей было больш, як трэба. Я на Грышу падала ў суд. Прысудзілі яму плаціць аліменты. Яму штомесяц адлічваюць 350 зл і перасылаюць мне. Ён чалавек даволі скупы. Цяпер ён звярнуўся да мяне з прапановаю, каб я аднак выйшла за яго замуж. Але тут паявілася другая справа. Я пазнаёмілася з Віктарам — шчырым, добрым, сумленным чалавекам. Ён старэйшы за мяне на 15 год. Прыходзіць да нас, забаўляе маленькага Юрку і ўпэўнівае, што будзе яму добрым бацькам.

Як мне паступіць? За каго выйсці замуж? Выйшла б не задумваючыся за Віктара, але непакоіць мяне думка, што Юрка не будзе мець роднага бацькі.

**Міра**
**Дуброўскі павет**

**Раю табе парваць усялякія сувязі з трусом і негадзяем, якім з'яўляецца Грыша. З несумленнага чалавека дрэнны муж і дрэнны бацька. Выйдзі без баязні замуж за Віктара, бо як відаць з твайго ліста ён сапраўдны чалавек. Напэўна будзе добрым мужам і бацькам.**

**СЭРЦАЙКА**



 

